Przesyłka opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 25 гр.

№ 1 | Вільня, 25 Ліпня 1931 г. | Год I

# ГОЛАС ПРАЎДЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ, ГРАМАДЗКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ. Выходзіць 2 разы у месяц.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Бэліны 40—4. (Wilno, ul. Beliny 40 m. 4. Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 1 г. дня.

„ГОЛАС ПРАЎДЫ" каштуе на год—6 зл. на паўгода 3 зл., на 3 мес.—1 зл. 50 гр., на 1 месяц—50 гр.

## АД РЭДАКЦЫІ

Даўно адчуваецца патрэба такога друкаванага воргану, які-б будучы зразумелым для шырэйшых колаў нашага грамадзянства,—сыстэматычна высьвятляў усе галоўныя пытаньні ў нашым палітычным і грамадзкім жыцьці, на якія дагэтуль не зьвярталася належнай увагі.

Дзякуючы гэтай акалічнасьці наглядаецца ў нашым народзе нейкая „ідэолёгічная анархія", якая вельмі ад'ёмна адбіваецца на нашым нацыянальна-культурным і грамадзкім жыцьці.

Перадусім нам трэба зусім ясна ўсьведаміць сабе — якім спосабам мы зможам зрэалізаваць свае нацыянальна-культурныя заданьні. Яшчэ да гэтага часу нашае грамадзянства блутаецца ў розных „орієнтацыях" якія нічога позытыўнага не далі для нашай справы і даць ня могуць.

Тыя палітычныя групы, якія ўсе свае надзеі пакладалі на камуністычны ўсход, збанкрутавалі аканчальна, разам з гэтым усходам.

Сама Савецкая ўлада сваімі ганебнымі чынамі, задушыўшы наш адраджэнскі рух і пасадзіўшы за вастрожныя краты ўсіх яго правадыроў — ясна паказала да чаго яна імкнулася.

Баламуцячы народ і прыкідваючыся прыхільнікамі беларускай культуры—камуністы, як аказалася, мелі на ўвазе свае акрэсьленыя мэты, нічога супольнага з нашымі нацыянальнымі ідэаламі ня маючымі.

Беларускі народ у межах Савецкай Беларусі зразумеў цяпер аканчальна, што камуністычная ўлада ніколі ня дасьць таго, што нам патрэбна. Акрамя таго савецкая „практыка" паказала, што тое, да чаго імкнецца камуністычная партыя ў галіне сельскай гаспадаркі, уводзячы там прыгонныя формы—ня можа быць ідэалам працоўных сялянскіх масаў.

Дзеля гэтага ўсе надзеі прыдушанага сялянства і нацыянальна-сьвядомай часткі нашага народу Усходняй Беларусі пакладаюцца на хуткі заняпад камуністычнай дыктатўры, пасьля якога толькі і могуць расчыніцца шырокія гістарычныя пэрспэктывы для нашай Бацькаўшчыны. Калі ў нас, у межах Польшчы, частка беларускага грамадзянства верыць яшчэ камуністам, дык робіць гэта ў большасьці выпадкаў нясьведама, не здаючы сабе справы з таго, што фактычна там робіцца. Тыя-ж людзі, якія апавядаюць розныя нябыліцы пра „райскія" абставіны жыцьця ў Савецкіх Рэспубліках,—сьведама ўводзяць у блуд наш народ, кіруючыся сваімі асабістымі мэтамі.

Вось-жа як раз на гэтую акалічнасьць наша газэта будзе зьвяртаць вялікую ўвагу, адкрыта і праўдзіва высьвятляючы перад грамадзянствам усё тое, што робяць камуністы ў сваёй „сацыялістычнай бацькаўшчыне".

Няхай гэтае высьвятленьне, у якім мы будзем апірацца толькі на фактах—служыць перасьцярогаю для нашых людзей, чакаю[illegible] „перамен на лепшае" у зьвязку з пажадан[illegible] для іх прыходам камуністычнай улады.

Разглядаючы нашыя „унутраныя" справы ў межах сучаснай Польшчы мы павінны прыйсьці да пераконаньня, што пры сучасных заблутаных міжнародных абставінах беларускі народ ў сваіх імкненьнях да нац.-культ. адраджэньня павінен апірацца на польскае арганізованае грамадзянства, ён павінен прыйсьці да пераконаньня, што толькі пры цесным супрацоўніцтве з гэтым грамадзянствам, рашуча адвярнуўшыся ад тых сілаў, якія ўносяць адну толькі дэмаралізацыю ў гушчу нашага народу, — мы зможам папраўіць свой нацыянальны і культурны быт.

Дзеля таго, каб нашае супрацоўніцтва было магчымым і дало пазытыўныя вынікі —нам трэба згўртаваць перадусім ўсе здаровыя, грамадзка не згангрэнізаваныя сілы, якія-б маглі аздаравіць ідэолёгію значнай часткі нашага народу.

Нам залежыць на тым, каб адвярнуць увагу мала сьвядомых элемэнтаў ад тых разбураючых чыньнікаў, якім залежыць на ператварэньні беларускага адраджэнскага руху ў рэвалюцыйна-камўністычны, якія сьвядома імкнуцца да таго, каб гэтым самым паставіць яго пад удары польскай дзяржаўнай улады і на гэтым будаваць сваю дэмагогічную акцыю. Нам трэба памятаць, што ўсякая дзяржава, ці то польская, ці то якая небудзь іншая, павінна бараніць сваё існаваньне і дзеля гэтага дзяржаўная ўлада жорстка прасьледуе ўсё тое, што цесна зьвязана з камуністычным рухам, хаця-бы ён і прыкрываўся нацыянальным „фігавым лісткам",

Разважаючы на гэтую тэму трэба мець на ўвазе яшчэ і тое, што сучасны камўністычны рух, як паказала дасьведчаньне — зусім выразна кіруецца чыннікамі іншай дзяржавы...

Разьвіцьце гэтых адзіна-правідловых думак і папулярызацыі іх сярод шырэйшых колаў нашага грамадзянства мы лічым за адну з галўных нашых мэтаў.

Мы маем вельмі моцныя падставы не пакладаць ніякіх надзеяў на ўсялякія іншыя „орыентацыі" якія разьядаюць нашае грамадзянства і думаем, што надойдзе час калі яно пераканаецца ў слушнасьці нашых развожаньняў.

Добра ведаем, што нашая праца будзе вельмі труднай, бяручы пад увагу тую дэмаралізацыю, якўю ўносяць усялякія разбураючыя чыннікі ў гушчу нашага народу, але разам з тым верым і ў тое, што слушнасьць пэўных думак, пры адпаведным угрунтаваньні іх, заўсёды знаходзілі ў народных масах спачуцьцё — знойдуць яны і ў шырэйшых масах нашага народу.

## Камуністычная партыя і сучасны эканамічны крызіс

Ва ўсіх дзяржавах Эўропы і Амэрыкі наглядаецца нябывалы яшчэ на сьвеце крызіс.

У прамысловых цэнтрах зачыняюцца фабрыкі і аграмадныя масы работнікаў пазбываюцца працы.

Крызіс ахапіў ня толькі места, але і вёску: прадукты сельскае гаспадаркі станелі, земляроб ня можа зьвесьці канцы з канцамі і апынуўся ў вельмі цяжкіх абставінах.

Прычыны сучаснага крызісу вельмі складныя і шмат вучоных эканамістаў ломяць галаву над тым каб адшукаць яго прычыну і знайсьці сродкі, якія-б маглі аслабіць яго сілу.

Сучасныя дэмократычныя ўрады, у склад якіх уваходзяць ня толькі прадстаўнікі гэтак зв. буржуазных клясаў, але прадстаўнікі сялянства і работніцкае клясы, як могуць так стараюцца аслабіць сілу сучаснага крызісу і яго вельмі цяжкіх вынікаў: арганізуюць публічныя работы, зьмяншаюць дзяржаўныя выдаткі, выдаюць запамогі безработным і іх семьям і г. д.

Трэба ведаць, што прычыны сучаснага крызісу вельмі складныя і ні ў якім выпадку не залежаць ад нейкай „злой волі" тае ці іншае клясы.

Эканамічны крызіс—гэта зьявішча стыхійнае, падобнае да прыродных стыхіяў якія, як ведама, не падпарадкаваны волі чалавека.

Мы нават дакладна ня ведаем усіх тых прычынаў, якія вызвалі сучасны крызіс, і толькі некаторыя з іх ужо далося ўстанавіць.

Перадусім, галоўнаю прычынаю зьяўляецца пасьляваенная эканамічная „перагрупіроўка."

Да вайны такія дзяржавы як Кітай, Індыя і іншыя куплялі ў вялікіх колькасьцях эўропэйскія і амэрыканскія тавары.

Цяпер яны гэтага ня робяць, бо панабудоўвалі сваіх фабрыкаў і амаль усё, што ім трэба, бяруць адтуль.

Другою ня менш важнаю прычынаю зьяўляецца тое, што Саветы не дапушчаюць да сябе тавараў з г. зв. буржуазных старон і ня гледзячы на тое, што ўсё савецкае грамадзянства (за выняткам камуністаў) галадае і ходзіць босым і абарваным, а сялянства ня можа дакупіцца нават іржавага цьвіка—цьвёрда стаяць на сваім і трымаюць сваю граніцу зачыненай для нашых тавараў.

Мала таго. Дзеля таго, каб пагоршыць эканамічны стан Эўропы і Амэрыкі—Саветы за бясцэнак пхаюць усюды свае тавары. Шлюць у вялікіх колькасьцях лес, сернікі, калёшы, нават хлеб і іншыя рэчы — і ўсё гэта робіцца з тою мэтаю каб засыпаць усе рынкі танным таварам і гэтым усіліць ува ўсіх дзяржавах безрабоціцу. Саветы высылаючы сюды свае тавары нічога на тэтым ня трацяць: рабочую сілу маюць дармовую, бо забіраюць працоўных сялян і інтэлігентаў, як контр-рэвалюцыянераў і шлюць на прымусовыя работы, зрабавалі ўсё, што толькі можна было зрабаваць і г.д.

Апрача гэтых галоўных прычынаў крызісу ёсьць яшчэ і іншыя, на якіх мы ня будзем тут затрымоўвацца.

Камуністы добра ведаюць, што праз пэўны час высілкі людзкія ня ўсілах спыніць сучасны крызіс — мы можам толькі зьмягчыць яго формы. Яны лепш ад нас знаюць, што пры савецкай уладзе вось ужо 13 год Расея перажывае найцяжэйшую форму крызісу, бо людзі там пастаянна прымiраюць з голаду і як раз камуністы нічога ня могуць парадзіць у гэтай справе, ня гледзячы на тое, што яны самі гэты крызіс стварылі.

Нават той работнік і інтэлігент не камуніст, які мае працу ў Саветах жыве горэй ад эўрапэйскага безработнага, які атрымоўвае запамогу ад ураду і магістратаў.

Ня гледзячы на ўсё гэта камуністы за ўсялякую цану хочуць давесьці цёмным і неасьвечаным масам, што толькі яны змаглі-б паправіць сучасны стан рэчаў, захапіўшы ўладу ў свае рукі.

Усімі спосабамі яны стараюцца падбухторыць безработных на „рэвалюцыйныя“ выступленьні; камуністычныя агітатары, добра вынагражданыя ў савецкія чырвонцы і даляры, з-за вугла радзяць работнікам выходзіць на вуліцу, класьціся на бруку, рабіць напады на паліцыю, магістраты і г.д. і робяць усё гэта з тою адзінаю мэтаю каб унесьці ў край як мага большыя замешкі, падчас якіх яны спадзяюцца захапіць у свае рукі ўладу. Маюць на мэце яны яшчэ і тое, каб як мага болей паліцыя паарыштавала людзей, якіх потым у вастрогах яны спадзяюцца перарабіць на свой капыл.

Усё гэта трэба добра памятаць працоўным масам, якія апынуліся ў сачасны мамэнт у цяжкім палажэньні.

**Трэба памятаць, што камуністы захапіўшы ўладу могуць толькі пагоршыць палажэньне працоўных масаў, як пагоршылі яго ў Саветах, дзе з селяніна яны зрабілі парабка і арыштанта, дзе работнік жыве ў голадзе і холадзе, дзе ўся працоўная маса, за выняткам камуністаў, чакае з вялікім нецярпеньнем таго мамэнту, калі камуністычная дыктатура будзе павалена.**

Трэба прыйсьці нарэшце да таго пераканаваньня, што *камуністы здольны толькі ашуківаць працоўныя масы, як яны ашукалі народ у Саветах.*

З крызісам трэба вясьці барацьбу арганізаванымі высілкамі ўсяго грамадзянства, рашуча адкінуўшы ўсе парады, якія даюць нам камуністы.

Сялянства павінна гуртавацца ў коопэратывы, бо яны зьяўляюцца адзінымі арганізацыямі, якія могуць палепшыць яго палажэньне асабліва ў сучасны цяжкі момант.

Работніцкія масы павінны гуртавацца ў сваіх прафэсыянальных саюзах, кіраваных праз цьвярозых і сумленных людзей, памятаючы, што толькі пры арганізацыі і ўзаімнапомачы лягчэй перажыць усякае ліха, а ў тым ліку і прамысловы крызіс.

## ШТО РОБІЦЦА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ?

У зьвязку з тымі выплатамі, да якіх абавязана Нямеччына рознымі міжнароднымі трактатамі і дзякуючы сучаснаму сусьветнаму эканамічнаму крызісу—фінансавая гаспадарка гэтай дзяржавы аказалася ў катастрафальным стане.

Нямеччына дамагаецца перагляду ўсіх трактатаў і паменшаньня выплатаў, даводзючы, што пры сучасным стане рэчаў можа наступіць аканчальны крах.

Пераканаліся ў гэтым і іншыя дзяржавы, якія працягваюць Нямеччыне руку ратунку, адначасна дамагаючыся ад яе розных палітычных прырачэньняў.

Перадусім у гэтых палітычных прырачэньнях зацікаўлена Францыя, якая дамагаецца каб Нямеччына выраклася мытнай вуніі з Аўстрыяй, ня будавала панцэрнікаў (бранеюосцаў) і не павялічвала вайсковага бюджэту на ўвесь час існаваньня мораторыюму, калі будзе мець права ўстрымацца ад выплаты сваіх забавязаньняў.

Францыя, як і іншыя дзяржавы выказваюць поўную гатоўнасьць ўратаваць Нямеччыну ад эканамічна-фінансавай руіны, але ўзалежняюць сваю помач ад шмат якіх варункаў палітычнага зьместу, на якія Нямеччына вельмі неахвотна згаджаецца.

У зьвязку з гэтым адбываюцца ў розных эўрапэйскіх цэнтрах канфэрэнцыі, на якіх эўрапэйскія дыплёматы стараюцца дайсьці да згоды і змусіць Нямеччыну падпарадкавацца агульным вырашэньням. Уся гэтая справа мае вельмі паважны характар і ёю цікавіцца ўвесь сьвет, бо запраўды ад таго, ці іншага яе вырашэньня можа залежыць спакой на ўсім сьвеце.

Абгаварываючы гэтую справу трэба памятаць, што на ўсходзе ёсьць — „сусед“, які чакае толькі адпаведнай хвіліны дзеля таго, каб умяшацца ў эўрапэйскія справы, праводзячы сваю праграму.

У зьвязку з сучаснымі падзеямі ў Нямеччыне ворган Чырвонай Арміі „Красная Звезда“ кажа пра „нябывалыя тэмпы нарастания предпасылак рэвалюцыйнага крызісу“ і іншых рэчах, якія так падабаюцца камуністам.

Гэтую як раз акалічнасьць маюць на ўвазе як нямецкія так і ўсе іншыя эўрапэйскія палітыкі, дзеля чаго ёсьць зусім пэўныя падставы спадзявацца, што сучасны крызіс, які ўзварушыў увесь сьвет — будзе памысна палагоджаны зацікаўленымі дзяржавамі.

Трэба адцеміць яшчэ тую акалічнасьць, што ня гледзючы на ажыўленую дзеяльнасьць розных разбураючых чыннікаў—нямецкі народ не паддаецца на правакацыю і захоўвае спакой.

У найгоршым выпадку там можа быць уведзена дыктатура, якая палажыла-б канец камуністычным круцельствам.

Нарэшце і само арганізаванае нямецкае грамадзянства мае столькі сілы, што дасьць рады сваім разбураючым сілам. Пакуль што там ідзець усіленая агітацыя пры дапамозе газэтаў, праклямацыяў і радыё за ўтрыманьне парадку і, трэба прызнаць, што гэтая акцыя дасьць пажаданыя вынікі.

## Надзеі Камінтэрну ў зьвязку з крызісам у Нямеччыне

Маскоўскае радіё перадае пасланьне Камінтэрну, прасьвечанае падзеям у Нямеччыне. Камінтэрн падкрэсьлівае ня толькі эканамічнае, але галоўным чынам палітычнае напружаньне ў сувязі з крызісам і даець рад парадаў, у тым ліку наступную:

Нямецкія камуністы павінны сільней, чым калі-б то ня было весьці прапаганду сярод пролетарскіх колаў, сярэдняга стану і захопленых панікаю дробных укладчыкаў.

У Маскве спадзяюцца, што дзякуючы эканамічнаму крызісу прадрэвалюцыйная атмасфэра яшчэ больш згусьціцца і зробіцца вельмі адпаведнай для камуністычных выступленьняў. Камінтэрн спадзяецца, што крызіс пашырыцца і на іншыя краі і ў гэтым кірунку ён стараецца, як вядома, зрабіць усё, што ад яго залежыць.

Выказваючы такія руЖовыя „пэрспэктывы на будучыню“ Камінтэрн змушаны, аднак прызнаць, што сучасны грамадзкі лад яшчэ вельмі сільны, што „міравы капітал“ будзе старацца пагасіць гэты пажар у Нямеччыне, каб „агонь“ не перакінуўся на іншыя дзяржавы. Бязумоўна апошняя ўвага мае слушныя падставы і гэтакім чынам усе чырвоныя надзеі Камінтэрну разьляцяцца таксама, як яны разьляталіся ўжо ні адзін раз.

Трэба памятаць тое, што сучаснае арганізованае грамадзянства Эўропы дасьць заўсёды належны адпор усякай спробе з боку камуністаў захапіць уладу ў свае рукі, наперакор згоды на гэта аграмаднай большасьці народу.

Тое, што здарылася ў Расеі—ня можа паўтарыцца ў сучаснай Эўропе.

## САВЕЦКАЯ ПЯЦІГОДКА і СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

Усё тое, што зараз робіцца ў Саветах і што носіць назоў соцыялістычнага будаўніцтва творыцца „па плянам“.

Над распрацоўкай такіх плянаў заняты тысячы людзей, якія вылічваюць, „плянуюць“, складаюць „пэрспэктывы“ і г. д. у выніку чаго складаюцца гэтак званыя пяцігодкі, што значыць пляны соцыялістычнага будаўніцтва на бліжэйшыя пяць гадоў ува ўсіх эканамічных галінах.

Адметнай асаблівасьцю гэтых плянаў зьяўляецца іх фантастычнасьць. Па большай часьці ўсе гэтыя пляны маюць паганае прызвычаеньне ня зьдзейсьнівацца на дзеле і моцна пахнуць маніпаў'шчынай.

Маецца такі плян і ў галіне сялянскае гаспадаркі, ахопліваючы пэрыяд „соцыялістычнага“ ў ім будаўніцтва ад 1927/28 г.г. па 1933 г. Няма, бадай, вялікай патрэбы спыняцца на ім больш дакладна, аднак, ня будзе лішнім прывесьці з яго некаторыя меркаваньні савецкіх Манілавых, паказваючых да якіх разьмераў можна дайсьці іх буйная фантазыя. Зразумела, усякі плян і кожная праца па пляну—рэчы вельмі карысныя і неабходныя, асабліва ў галіне эканамічнага жыцьця, але толькі ў тым выпадку, калі гэтыя пляны пабудованы на больш дакладным падліку рэальнай рэчаістасьці і магчымасьцяў у будучыні.

Супроць такіх плянаў у нас ня можа быць ніякіх супярэчаньняў.

Але калі яны будуюцца навосчуп, калі пры іх складаньні працуе больш фантазія, чым цьвярозы падлік рэчаістасьці, дык ад плянаў, складзеных пры такіх умовах — ня толькі ня будзе ніякае карысьці, але само правядзеньне іх у жыцьцё можа прынесьці адну толькі шкоду для ўсяе эканомікі краю і лішні канфуз для ўсіх тых, хто верыў у гэтыя пляны.

Згодна афіцыяльным савецкім дадзеным з 150 мільёнаў насельніцтва — сялян налічваецца 123 мільёны чалавек, пры 26—27 мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак. Асноўным сваім заданьнем савецкая ўлада лічыць павялічэньне вытвару сялянска-гаспадарчае прадукцыі з такім розьлікам, каб ня толькі пракарміць жыхарства свайго краю але і мець магчымасьць вывозіць надмеры заграніцу.

Па цэламу раду прычынаў дробныя сялянскія гаспадаркі ня могуць даць такіх надмераў, дзеля таго яго прыходзіцца рэфармаваць, шляхам узмацненьня і стварэньня больш прадукцыйных гаспадарчых адзінак.

Адгэтуль — правядзеньне калектывізацыі ўва ўсіх яе формах, у апошнія часы прыняўшай прымусовы характар.

Такім чынам, пяцігадовы плян, ці правільней правядзеньне ў жыцьцё гэтага пляну мае два заданьні: 1) выкалаціць з сялянскае гаспадаркі максімальную колькасьць прадуктаў і 2) адначасова з тым праводзіць у жыцьцё каранную рэканструкцыю на соцыялістычных падставах.

З самага пачатку трэба заўважыць, што адначасовае выкананьне гэтых двох заданьняў, зьяўляецца эканамічна немагчымым: усялякая карэнная ломка старых адносінаў у аграрнай галіне і ўзмоцненае правядзеньне новых—мае нямінучым сваім вынікам — скарачаньне прадукцыі.

Устанаўленьне калектывістычных адносінаў на вёсцы магчыма прывяла-б да павялічэньня прадукцыі толькі ў больш менш далёкай-будучыні, але ня мае ніякае надзеі на тое, каб у самым працэсе ўстаноўленьня гэтых адносінаў, адначасова паднімалася і прадукцыя, на што разьлічваюць аўтары савецкае пяцігодкі.

Такога роду меркаваньні знаходзяць пацьверджаньні ў савецкай рэчаістасьці, аб якой мы даведваемся з газэтаў, і якая нам азначана гаворыць аб скарочаньні пасеўнае плошчы, спажывецкім крызысе і іншых падобных зьявішчах, прычыну якіх трэба шукаць у павялічаным тэмпе савецкае калектывізацыі і бязглуздай аграрнай палітыцы камуністычнай партыі.

Якія-ж прадбачаныя пяцігадовага пляну ў галіне паднясьцця прадукцыі сялянскае гаспадаркі?

Самыя найлепшыя. Лепшых ня можа быць ні ў водным краі. Гэткімі ёсьць аднамысныя думкі ўсіх савецкіх аўтараў, дарэчы сказаць, ня маючых магчымасьці выказаць свае праўдзівыя думкі, нават каб яны і хацелі гэта зрабіць.

Возьмем самае балючае і самае важнае пытаньне савецкае сельскае гаспадаркі — ураджайнасьць збажовых прадуктаў.

Рэчаістасьць у гэнай галіне наступная:

У той час, як у С. С. С. Р. ураджай пшаніцы ў сярэднім у 1926 годзе не перавышаў 7 цэнтнараў і жыта 8 цэнтнараў з гэктара, у буржуазнай Галяндыі пшаніца дае 28 цэнтнараў і жыта 18.

Цэлы рад іншых старонак дае куды большыя лічбы чым Саветы.

# З Савецкага жыцьця

## Сенаўборка.

Галадоўка савецкага грамадзянства і ўсялякія недахопы самых неабходных рэчаў — ператварыліся там у нармальнае зьявішча, якому цяпер мала хто дзівіцца.

Да ўсяго гэтага трэба спадзявацца ў зімку гэтага году галадоўкі жывёлы, якая мусіць пакутаваць за грахі камуністычных гаспадароў.

Ужо цяпер савецкі ўрад, а за ім і савецкія газэты бьюць трывогу з прычыны вельмі слабых пэрспэктываў на сёлетнюю ўборку сенажацьцяў.

Камуністы — калгасьнікі выяўляюць ня вельмі вялікую ахвоту да працы, дзеля чаго сенажаці аказаліся ня сабранымі.

Палажэньне аказалася настолькі катастрафальным, што Беларускі Савет Народных Камісараў на чале з Галадзедам змушаны быў 8 ліпня г г. выдаць спэцыяльны дэкрэт адносна гэтай справы.

„Уборка сенажацьцяў на рэспубліцы"—чытаем у ім: „праходзіць марудна. Паасобнымі раёнамі зусім мала зроблена для арганізацыі гэтай важнейшай кампаніі... Прапаную мобілізаваць вокал сенаўборкі грамадзкую думку (ці не пазнавата толькі!? Рэд.), паскорыць перавод па зьдзельшчыку ўсіх саўгасаў і калгасаў"...

І тут бачым, што для ўратаваньня камуністычнай гаспадаркі трэба хапацца за чыста буржуазны сродак, як зьдзельшчына!

Згодна афіцыяльнай зводкі аб ходзе касьбы і ўборкі сенажацьцяў у Б. С. С. Р. на 5 ліпня плян выкананы па саўхозах, калгасах і па „аднаасабоваму сэктару" (г. з. у прыватных гаспадарках) толькі на 35,2%.

Бязумоўна ў гэтым годзе будзе вялікі недабор кормаў і гэта лішні раз пакажа нам няўдольнасьць гаспадараваньня на тых падставах, якія ўведзены ў Саветах камуністычнаю ўладаю.

## Савецкія цэны.

Каб уявіць сабе запраўдны вобраз савецкага жыцьця трэба ўзяць пад увагу з аднаго боку— вялічыню заработкаў савецкага грамадзянства, а з другога — цэны на прадукты і самыя неабходныя рэчы, без якіх чалавек ня можа абыйсьціся. Вось-жа заработкі ў Саветах такія: рабочыя ў Маскве атрымоўваюць у месяц ад 80 руб. да 200 р. Пераважная частка работніцкай масы атрымоўвае 80—100 рублёў. Вышэйшую плату маюць нялічныя групы г. зв. кваліфікаваных работнікаў і камуністы.

Зарабатак служачых акрэсьліваецца ад 60 р. да 325. Вышэйшыя стаўкі атрымоўваюць адказныя працаўнікі пераважна камуністы, а сярэдні савецкі ўрадовец мае ад 60 да 150 р. у месяц.

Цяпер пяройдзем да цэнаў на прадукты, якія былі ў Маскве ў пачатку ліпня мес. г. г.

Трэба ведаць, што цэны там на ўсё двайныя: адны для „праведнікаў", якія атрымоўваюць некаторыя прадукты з г. зв. „распределітелей," а другія для ўсіх грэшных савецкіх грамадзян (сяляне, інтэлігенцыя, недабіткі буржуазных клясаў і г. д.)

Масло 1 кілё ў „распр." каштуе 4 р.—у вольнай прадажы 8 р. Яйца ў „распр" каштуе 10 шт. 90 к. у вольнай прадажы 4 р. Мясо — кілё—1 р. (выдаюць яго па 1/2 кілё на тыдзень і то не заўсёды). Хлеб жытні 1 кілё — 25 к. у вольнай прадажы 1 кілё 3 р. Цукер — 1 к. 60 к. у вольнай прадажы 1 кілё 3 р. 50 к. Малако ў вольнай прад. 1 літр — 1 р. 20 к. Нагавіцы парцяныя — 12 р., а ў воль. прад. 40 р. Трэба яшчэ зазначыць, што каб дастаць з „распределітелей" некалькі рэчаў тавару напр. цукру, хлеба і масла — то трэба аблётаць у працягу 1—2 дзён усю Маскву. Вось дзеля чаго, між іншым, усе трамваі ў Маскве перапоўнены народам. Цяпер калі мы параўнаем паміж сабою пададзеныя вышэй цыфры і пастараемся ўлажыць прыкладны бюджэт савецкага грамадзяніна, то зразумеем як соладка яму жывецца і чырвонай сталіцы.

## Фінансавае банкроцтва Савецкага ўраду.

Савецкі ўрад пастанавіў павысіць цэны на ўсе спажывецкія прадукты і фабрычныя тавары на 50%.

Урад змушаны быў да гэтага дзеля таго, што савецкія грошы зусім страцілі вартасьць і бязупынны выпуск папяровых грошаў можа прывесьці край да поўнага фінансовага банкроцтва, а разам з тым і да поўнага развалу „будаўніцтва".

Ня гледзючы на павышэньне ўсіх цэнаў на 50% заработная плата рабочым і служачым будзе такая, як была і раней.

У зьвязку з гэтым матэрыяльны стан працоўных значна пагоршыўся.

## У Саветах паншчына.

„Савецкая Беларусь" з дня 17. V. 1911 г. падае, што ў камунах заведзяна „выдзельшчына" працы г. зн. кожнаму селяніну камуністычны (калектыўны) цівун назначае сколькі ён вавінен у дзень заараць, забаранаваць ці зрабіць якой іншай работы. Кожны аратай павінен даглядзець пару калектыўных коняў.

Тая-ж „Савецкая Бел." падае, што сяляне ўжо прабуюць з камуністамі змагацца, баронячыся ад калектывізацыі

## [illegible]рышты і высылкі савецкіх студэнтаў

Газэты падаюць, што ў маскоўскіх студэнтскіх гурткох распаўсюджваецъ лятучкі тайная арганізацыя моладзі пад назовам „Свабодная навука". З гэтых лятучак відаць, што ў мінулым школьным годзе агентамі Г. П. У. было арыштавана 1474 студэнтаў маскоўскіх вышэйшых школаў. З гэтага ліку 929 чалавек было саслана ў Сібір, 362 знаходзяцца да гэтай пары ў вастрогах Масквы, - рэшта выслана па этапу да хаты.

# ШТО ЧУВАЦЬ НА СЬВЕЦЕ?

## Шпіёнская справа маёра Дэмкоўскага

17 ліпня г. г. разглядалася ў Варшаўскім вайсковым судзе справа маёра Дэмкоўскага, абвінавачанага ў шпіёнстве на карысьць суседняй дзяржавы. Працэс вёўся пры зачыненых дзьвярох. Суд прыгаварыў Дэмкоўскага, які прызнаўся да віны на кару сьмерці, якая была выканана ў Варшаўскай цытадэлі.—

## Ліквідацыя шпіёнскай афёры.

У зьвязку з паказаньнямі, дадзенымі шпіёнам Дэмкоўскім (якога ўжо растралялі) удалося зьлівідаваць шпіёнскую афёру, ніці якой, як падае „Нашае Время" вядуць да будынку аднаго з пасольстваў, якое месьціца на Пазнанскай вул. у Варшаве.

У зьвязку з гэтаю афёраю арыштаваны адзін добра ведамы варшаўскі інжынер.

## Масавыя выпадкі сьмерці ад сонечнай гарачыні.

У цэнтральнай частцы Злучаных Штатаў у працягу некалькі дзён гэтага месяця наглядалася надзвычайная гарачыня.

У Чыкаго ад сонечнага ўдару памерла больш 20 чалавек. З іншых мяйсцоў таксама павядамляюць пра многія выпадкі сьмерці ад гэтай прычыны.

## Самагубства ў Нямеччыне.

Нямецкія страхавыя (асэкурацыйныя) таварыствы ў вялікай трывозе. Рэч у тым, што надзвычайна павялічыўся лік самагубстваў, што ў сваю чаргу давяло да вялікіх убыткаў страхавых таварыстваў.

З агульнай колькасьці застрахаваных у таварыстве „Вікторыя" на 100 выпадкаў сьмерці ў 1929 г. прыпадала больш 5% самагубстваў, а ў 1930 г.— 14%. Такія самыя весткі падаюць і іншыя страхавыя таварыствы. Досьлет гэных таварystваў паказаў, што надзвычайна павялічылася колькасьць самагубстваў сярод багатых клясаў, якія страхуюцца на даволі значныя сумы на карысьць сваіх семьяў.

## Праца камуністаў у Баўгарыі.

Як выявілася, забастоўка, якая была ў многіх мяйсцох Баўгарыі—і якая выклікала рад забурэньняў паміж забастоўшчыкамі і паліцыяй—зьяўляецца вынікам працы камуністаў.

На чале забастовачнага камітэту аказаліся агенты, высланыя з Масквы і паслы Баўгарскага парлямэнту з камуністычнае фракцыі.

## У Нарвэгіі ня б'юцца.

Гэтая дзяржава можа паслужыць прыкладам усім дзяржавам сьвету. У гэтай краіне, як сьцвярдзіў адчот яе вязьнічнай інспэкцыі, ад 1928 году

---

Нават у Гішпаніі і Румыніі ўраджайнасьць пшаніцы акрэсьлівалася ў 9 цэнтн., а ў Польшчы 17 цэнтн. з гэктара. Такім чынам Саветы ў гэтым выпадку стаяць на ўсёй зямной кулі на апошнім месцы.

Такая акалічнасьць не перашкаджае, аднак, савецкім фантазёрам будаваць грандіозныя пляны— дагнаць і апярэдзіць капіталістычны сьвет у працягу некалькі гадоў.(!)

Кажучы аб павышэнцні ўраджайнасьці ў будучыне, адзін такі фантазёр, піша напр., наступнае: „гэта такі калясальны рост, якога ня ведае ні водная буржуазная дзяржава". (Мінінзон і Юдовіч стар. 59).

З тае-ж кніжкі, цытаваных намі аўтараў, мы даведываемся што „ў згодзе з дэкрэтам Ц. В. К. плян намячае падняць ураджайнасьць (!?) па галоўным культурам наступным чынам:

| Працэнт росту | на 1932/33 г. | на 1933/34 г. |
|---|---|---|
| Збажовыя . . . | % 24 | % 35 |
| Лен валакно . . | „ 57 | „ 70 |
| Бавоўна . . . . | „ 34 | „ 44 |
| Цукровы чарот . | „ 33 | „ 41 |

Цыфры вельмі паважныя і вельмі наглядныя — угэтым трэба аддаць справядлівасьць аўтарам савецкае пяцігодкі. Але наколькі яны будуць адказваць сапраўднасьці — у гэтым мы вельмі сумляваемся.

Становішча будзе настолькі добрым, што пад канец пяцігодкі Савецкі Саюз будзе мець магчымасьць, вывозіць за граніцу больш 8 мільёнаў тонаў збожжа ( 1 т.=61 п.)

Перадваенная Расея ў апошнія годы вывазіла больш 9 мільёнаў тонаў і такім чынам, па самым нават вясёлкавым плянам пад канец пяцігодкі норма вывозу хлеба не дасягне перадваенных разьмераў.

Адны саўгаспадаркі па пляну дадуць у 32/33 г. 28 мільёнаў цэнтнараў збожжа (цэнтн.—6,1 пуда), а у 1933/34 г., як запэўнівае Мінінзон, нават 35 міл. цэнтн. Гэта складзе, кажа ён, каля палавіны таго, што спажывае ў цяперашні час горад, 1/6 частку ўсяго таваровага хлеба ў краі.

Што там будзе ў 34 годзе—трудна, ведама сказаць; тое-ж што маецца там вось зараз—сюліць вельмі мала пацешаючага.

„Па пляну" — саўгасы могуць даць і яшчэ больш збажыны — чым гэта намечваецца, але на жаль бальшавікоў паміж іх плянамі і ўзапраўднасьцю спасьцярагаюцца „ножніцы" якія фактычна пераістачаюць усе іх пляны ў непатрэбнае пэцканьне паперы.

Пляны абяцаюць залатыя горы і малочныя рэк з кісельнымі берагамі—а сапраўднасьць падносіць голад, дарагоўлю тавараў і жабрацкае, годнае жалю існаваньне працоўных масаў, пошасныя хваробы і перадчасную сьмерць.

Трудна пералічыць усё тое, чым абяцае абдарыць старонку гэты пяцігадовы плян.

Прыводзіцца напр., што ў 1926/27 г. вёска атрымала сельска-гаспадарчых машынаў на 130 мільёнаў руб., а ў 1928/29 г. намечана кінуць у вёску с.-г. машынаў на 207 мільёнаў руб.

І гэта лічыцца ўжо аграмадным дасягненьнем.

Калі-ж прыняць пад увагу, шмо ўсе гэтыя 207 мільёнаў руб. павінны расплывацца сярод 27 мільёнаў сялянскіх гаспадарак, дык на долю кожнае з іх у сярэднім выпадзе вельмі скромная сума, асабліва ў савецкай валюце, за якую ня купіш нават даволі добрай бараны. Далей, трэба прыняць пад увагу, што львіную долю з гэтых мільёнаў захопяць саўгасы, камуны і трэсты і такім чынам на долю працоўнага сялянства прыпадзе, як кажуць, усёга-нічога, або ў лепшым выпадку фунт заржавеўшых цьвікоў.

Мінінзоны з трыумфам заяўляюць:

„У перадваенны час трацілася на набыцьце с.-г. інвэнтару на 1 гэктар пасеву 1 р. 4 к., у 1928 г. ужо 1 р. 77 к. У 1929 г. гэтыя цыфры па заўчасным разрахункам дасягнуць 2 р. 5 к. на 1 гэкт. г. зн. яны павялічацца ўдвая ў параўнаньні з перадваеннымі часамі" (Мінінзон—стар. 11).

Так прыблізна атуманьваюць наіўнага чытача савецкія аграрныя палітыкі, сьвядома апушчаючы з віду адну вельмі істотную акалічнасьць—розніцу паміж курсам перадваеннага і савецкага рубля.

Тое, што можна было купіць перад вайною за 1 р. 4 к. — ня купіш цяпер ня толькі за 2 р. 5 кап. але нават і за тры руб. дзеля таго, што вартасьць савецкага чырвонцу катастрафальна пала і прыблізна раўняецца менш 10% яго намінальнай вартасьці ў пераводзе на даляры.

Такім чынам выходзіць, што яшчэ доўга прыдзецца чакаць у саветах таго часу, калі будзе дасягнута ў гэтых адносінах перадваенная норма

(Працяг у наступным №)

*Ф. Акінчыц*

аж да гэтага часу ня было ніводнага забойства. Нарвэскія ўлады тлумачаць гэны добры стан — лепшымі абставінамі працы, агульным дабрабытам насельніцтва, добрай арганізованнасьцю паліцыі і цьвярозасьцяй народу.

## Сьвяткаваньне 11 угодкаў Слуцкага паўстаньня

Рэдакцыя нашай газэты атрымала адозву ініцыятыўнай групы, створанай для сьвяткаваньня 11 угодкаў Слуцкага паўстаньня, якую і зьмяшчаем на гэтым мейсцы поўнасьцю.

ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

У лістападзе сёлетняга году мінае 11 гадоў, калі лепшыя сыны Случчыны выступілі на абарону свае Бацькаўшчыны.

10 тысячаў маладых, адважныч змагароў, баронячы права Беларускага Народу на самавызначэньне, паднялі аружнае паўстаньне супроць маскоўска-бальшавіцкае навалы. Пасьля блізу паўтарамесячнай крывавай і няроўнай барацьбы — у шмат разоў дужэйшы вораг перамог. Слуцкія паўстанцы, паліваючы крывёю і ўсьцілаючы трупамі свой баявы шлях, пакінулі родную зямельку, засуджваючы сябе на доўгае выгнаньне. І цяпер, расьцярушыўшыся па ўсім сьвеце, цярпяць холад і нэндзу, сьвята чакаючы таго мамэнту, каб рэштку свайго жыцьця аддаць за Вольную і Незалежную сваю Бацькаўшчыну.

Грамадзяне Беларусы! У Вільні арганізавалася ініцыятыўная група, якая ўтварыла камітэт з удзельнікаў Слуцкага паўстаньня і прыхільнікаў яго ідэі. Камітэт у лістападзе г. г. мае на мэце зладзіць у Вільні ўрачысты абход гэтай вялікай гістарычнай падзеі ў вызвальнай барацьбе Беларускага Народу, выдаць адумысную кніжку, прысьвечаную Слуцкаму паўстаньню і прачытаць на правінцыі некалькі лекцыяў — дакладаў па гэтаму пытаньню.

Грамадзяне Беларусы! Кожны, у кім б'ецца беларускае сэрца і каму дарагі ідэалы Слуцкіх паўстанцаў, няхай прыдзе з ахвяраю і гэтым дапаможа нам належна арганізаваць абход сьвята і хоць гэтым ушанаваць памяць тых змагароў, якімі на іх вайсковым штандары было напісана: „Тым, якія першымі пашлі паміраць за Бацькаўшчыну“.

Ахвяры пасылаць на адрас: інж. С, Бусел, Вільня, Млыновая 2, п. 39, або кнігарня С. Станкевіча, Вострабрамская 2.

Ад імя ініцыятыўнае групы

інж. *Бусел*, *А. Шкутка*, студ. У.С.Б., *А. Дзік*, тэхнік.

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ З КРАЮ

### СПРЭЧКА З ЛІЦЬВІНАМІ ЗА ВОЗЕРА ДУКШТЫ.

У зьвязку з тым, што літоўскія пагранічнікі захапілі частку возера Дукшты—21 ліпня адбылася польска-літоўская канфэрэнцыя ў Сунтупах Сьвянцянскага пав.

На гэтай канфэрэнцыі дайшло да ўзаемнага паразуменьня ў зьвязку з чым дакладнае ўстанаўленьне граніцы даручана асобнай камісіі, ў склад якой увайшлі прадстаўнікі зацікаўленых старон.

### ШТО НАРАБІЛА ГРАДАВАЯ БУРА Ў НАВАГРАДЧЫНЕ.

Гураган, які пранёсся над Наваградчынай прычыніў вялікія шкоды. Найбольш уцярпела ад граду і буры Ўсялюбская гміна, дзе ў 15 вёсках і 4 маёнтках град зьнішчыў усе пасевы дашчэнту. У гм. Райцы град зьнішчыў пасевы ў 6 вёсках і некалькіх асадах, у Кушалеўскай і Горадэчанскай гмінах пагінулі пасевы ў 11 вёсках, прыгэтым працэнт зьнішчэньня вагаецца ад 40 да 80 працэнтаў.

Усяго зьнішчана да 4000 гэкт. пасеваў, што дало нашаму жыхарству стратаў больш ян на 1 мільён залатовак.

Неабходнай зьяўляецца якнайхутчэйшая запамога, бо голад ужо заглядае ў вочы пацярпеўшаму сялянству.

### ВЫБУХ БОМБЫ НА ЧЫГУНАЧНЫМ ШЛЯХУ ЛІДА—ВІЛНЯ.

19 ліпня г. г. раніцай падчас прыходу цягніка на адлегласьці 17 кіл. ад Ліды выбухла бомба, паложаная на чыгуначным насыпу. Дзякуючы асьцярожнасьці машыністы, які здалеў затрымаць своечасна цягнік, абыйшлося бяз людзкіх ахвяраў.

У выніку выбуху засталіся вырванымі шпалы, пашарпана шына і вытварылася даволі значная яма ў насыпу. Паравоз і вагоны значных шкодаў не аднесьлі. Як паказала сьледзтва, на якое выехалі віленскія ўлады, уся сіла выбуху скіравалася ў бок, дзякуючы чаму ня было людзкіх ахвяраў. Адпаведныя ўлады вядуць у гэтай справе энэргічнае сьледзтва, якое павінна выявіць грамадзянству тых злыдняў, якія падымаюць руку на цягнікі і едучых у іх пасажыраў.

### НЯБЫВАЛЫ ЗБРОЙНЫ НАПАД САВЕЦКАГА ЛЯТУНА НА ПАГРАНІЧНЫХ ЖАЎНЕРАЎ.

У канцы ліпня г. г. меў мейсца наступны выпадак: на Маладэчанскім пагранічным вучастку жаўнеры К. А. П. заўважылі савецкі аэраплян, які ляцеў над польскай тэрыторыяй. Нагласьць савецкіх жаўнераў дайшла да таго што заўважыўшы „Капістаў“ — абстралялі іх густым агнём з кулямёту. У адказ на гэта польскія пагранічнікі абстралялі савецкі аэраплян, які хутка пасьля гэтага адляцеў на Савецкі бок.

Нябывалы да гэтуль такі выпадак абурыў як жаўнераў, так і мяйсцовае жыхарства.

Як падаюць газэты, польскія ўлады выслалі да камэнданта савецкага пагр. вучастку ў Заслаўлі востры пратэст у гэтай справе.

### ПАЖАРЫ НА ВІЛЕНШЧЫНЕ.

Паводле праведзенага падліку за першыя 6 месяцаў гэтага году выбухла 1200 пажараў, якія прынесьлі аж на 6.200.000 злотых шкоды.

Гэты сумны факт сьведчыць аб неабходнасьці ўсіленьня розных захадаў проці вагнёвай небясьпекі.

### СЯЛЯНЕ ЎСЬЦЯЖ УЦЯКАЮЦЬ З САВЕТАЎ.

Нядаўна на Рубяжэвіцкім пагранічным вучастку на польскай тэрыторыі апынулася 3 сялян, якім удалося ўцячы з Саветаў. У свой час яны былі арыштаваны камуністамі і высланы на прымусовыя работы ў ваколіцах Камайска. Прыблізна ў гэты самы час на другім пагранічным вучастку ў раёне Вялейкі перабралася на наш бок 2 селяніна з Заслаўля, якія былі засуджаны разам з іншымі на кару сьмерці за падпал будынкаў урадовых установ. Дзякуючы шчасьліваму выпадку сялянам удалося ўцячы ад сваіх катаў і перакінуцца ў Польшчу.

## Беларуская хроніка

### Віленская Беларуская Гімназія.

Як мы даведаліся, у Віленскай гімназіі ў наступным школьным годзе ня будуць допушчаны да выкладаў тыя вучыцялі, якія ня маюць адпаведнай адукацыі, ці то не атрымалі да гэтага часу вымаганых для ўсіх вучыцялёў кваліфікацыяў.

На мейсца звольненых, як ходзяць чуткі, маюць быць вызначаны маладыя культурныя сілы, якія адпавядалі-б сучасным вымаганьням.

### Арышт сяброў „Дачаснай Камісіі Т-ва: Бел. Школы“ ў Вільні.

10 ліпня г. г. па загаду Віленскай пракуратуры агенты палітычнай паліцыі зрабілі вобыск у памешканьні Т. Б. Ш. Падчас вобыску паліцыя забрала шмат якіх актаў і кніжак, арыштаваўшы Саковіча, Скурчанку і Мажуцьця дзеля таго, што падчас вобыску ў Варшаве ў нейкай Ледэрман Хаі знайшлі дакумэнты, з якіх відаць, што вышэй пададзеныя асобы належалі да кіруючай камуністычнай тройкі для працы ў Т. Б. Ш.

### Справа Б. Тарашкевіча.

Як падаюць газэты, справа б. пасла Тарашкевіча будзе разглядацца ў Віленскім акружным судзе. У жніўні г. г. Тарашкевіч, які быў засуджаны разам з іншымі на 8 гадоў турмы, атрымаў уласкаўленьне рэскрыптам п. Прэзыдэнта, вясною прошлага году.

Па звальненьні ён хутка выехаў у Гданьск, дзе, як кажуць газэты, кіраваў камуністычнаю агітацыяй у межах Польшчы.

Як ведама, Тарашкевіч быў арыштаваны ў Тчэве і яго цяпер абвінавачваюць у дывэрсыйнай акцыі камуністаў на нашых землях.

Як падае „Газэта Варшавска“ на зьездзе камуністаў у Гданьску абгаварваўся падрабязны плян гэтай працы і тады галоўнае кіраўніцтва ім было даручана б. старшыне грамады Тарашкевічу.

Але „пляны“— гэта адно, а сама справа—рэч зусім іншая.

Камуністы так „накіравалі“ Тарашкевіча, што ён выбраўшся з Гданьску—даехаў толькі да першай польскай станцыі, а адтуль павандраваў у вастрог.

### „Сьветач Беларусі.“

У ліпні месяцы г. г. вышаў з друку № 1 (4) час. „Сьветач Беларусі“, прысьвечаны царкоўным справам і выдаваны Ц. Бел. Правасл. Камітэтам.

Часопісь гэта, якая, на жаль, выходзіць вельмі нерэгулярна, шмат мейсца адводзіць справам беларусізацыі царквы і уніі.

Адносна апошняй часопісь, бяручы пад увагу зусім ненармальны стан рэчаў, які наглядаецца ў праваслаўнай царкве адносна беларускай мовы—ставіць пытаньне з кім ісьці праваслаўным—ці з уніяй, ці з сучасным праваслаўем, якое зьяўляецца разсаднікам расейшчыны сярод беларускіх масаў.

Не даючы простага адказу на гэтае пытаньне часопісь, як відаць, усё-ж такі прыхіляецца на бок уніі, маючы на ўвазе, што гэта апошняя можа ўвесьці ў царкоўнае жыцьцё родную мову. Трэба сказаць праўду,—апошні № „Сьв. Бел.“ уложаны добра і варта было-б каб нашае грамадзянства бліжэй зацікавілася тымі справамі, якія парушаюцца ў гэтай часопісі.

## ПАРАДЫ ДЛЯ ГАСПАДАРОЎ

### БАРАЦЬБА З БУЛЬБЯНОЮ ГНІЛЬЛЮ.

Бульбяная гніль зьяўляеца на бульбяніку ад чэрвеня да жніўня ў постаці спачатку жоўтых плямаў, якія потым пераходзяць у чорныя, апошнія на сподні́м боку лісьця бываюць абведзяны бёлаю палоскай. Хвароба з бульбяніку ў восені пераходзіць на бульбіны і выклікае іх гніеньне.

Каб ўратаваць бульбу ад гэтае хваробы, трэба бульбянік скрапляць бардосскай жыжкай і то з пачатку зьяўленьня хваробы.

Бардосская жыжка прыгатаўляецца наступна:

У драўляную, або гліняную пасуду наліваецца 90 літраў вады, у якой распушчаецца 2 кілёграмы сіняга каменя (сярчану медзі); потым асобна ў 10 літрах вады распушчаецца $^1/_2$ кілёграма ($^1/_4$ вагі сіняга каменя) сьвежае паленае вапны. Зробленае так вапеннае малако памалу ўліваецца ў рошчын сіняга каменя і перамешываецца.

Пасьля таго, як мешаніна гэтая адстаіцца, атрымаецца на дне сіняваты асадак, а на версе чыстая вада. Калі вада будзе хоць крышку сінявата, то трэба прыбаўляць яшчэ вапеннага малака датуль, пакуль вада ня страціць абсалютна колер. А гэта апошняе дзеля таго, каб у рашчыне не засталося вольнага сярчану медзі, які можа зьнішчыць бульбянік.

### ХАЛЕРА Ў КУРЭЙ.

Хвароба гэтая мае ў курэй наступныя аб'явы: хворая курка становіцца сумнай, пер'я ня прылягае шчыльна да цела, грэбень і цела сінеюць, паяўляецца белая бягунка, дыханьне становіцца трудным і ясна чуваць хрыпат.

Проціў гэтае хваробы раіцца даваць курам ад 10—15 грамаў вапнаванага зярна. Вапнаваньня зярна можна зрабіць гэтак: 1 кілёгр. непаленае вапны заліваецца 10 літрамі мягкае вады; на другі дзень вада зьліваецца і мочыцца ў ёй зярно.

Пры паяўленьні хваробы трэба адлучыць здаровыя штукі ад хворых, а курнікі выбеліць вапнаю ці вымыць вадою, да якой прыбаўлена 10% карболявае кісьлі.

### ЯК АБАРАНІЦЬ ЖЫВЁЛУ АД АВАДНЁЎ і МУХ.

Для гэтай мэты націраюць жывёлу адварам лісьцяў арэшніка ў воцце, у якім іх трымаюць ад 8—14 дзён. Другім добрым сродкам ёсьць адвар тытуню, адвар лаўровых лісьцяў у сьвінным салі.

Добра для гэтае мэты надаюцца: анісавы алей, рыцына, лаўровае масла ўсумешцы з тлустасьцю, нафталінавая мазь.

Можна ўжыць $^1/_2$ % рошчын карболевае кісьлі, але з ёю трэба быць асьцярожным, каб яна прыпадкам ня трапіла ў вочы.

З будыніны можна выпудзіць мух развешваньнем чорнае бузіны, або расьліны, якую завуць папарацьцю (Pteris aquilina).

Не садзяцца мухі на жывёлу, калі скуру яе нацерці дзёхцянай вадою, моцным адварам зялёных канапель, адварам сасновых шышак і асабліва лісьцяў арэшніку і ляшчыны.



Рэд.-Выдавец ФАБІЯН АКІНЧЫЦ.

Вільня, Друк. У. Знамяроўс к[illegible]ага, Квашэльная 23